



# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

№49 (260) 8 — 14 снежня 2000 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ НЕЗАЛЕЖНЫ ШТОТЫДНЁВІК. ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997г.




**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**На I паўгоддзе 2001 года падпісная цана на "ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС" складае:**

**для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс 63834) на адзін месяц — 427 рублёў, на квартал — 1281 рубель, на паўгоддзе — 2562 рублі.**

**для ведамаснай падпіскі (індэкс 64145) на адзін месяц — 1182 рублі, на квартал — 3546 рублёў, на паўгоддзе — 7092 рублі.**

**Газет для вас выдаецца шмат. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" толькі адна. Не забудзьцеся падпісацца на яе.**

## Уся надзея на чужога?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** З адабрэння прэзідэнта ў нас паявіўся новы старшыня райвыканкама. Гэта Аляксандр Няхаеў, які працаваў раней у Маларыце на такой жа пасадзе. Высокія вертыкальшчыкі спадзяюцца, што новы старшыня выведзе Івацэвіцкі раён у лік перадавых у вобласці. Перспектыва заманлівая. І, дай Бог, каб яна спраўдзілася. Толькі чужому чалавеку на новым месцы яшчэ трэба прыжыцца, дом пабудаваць ці кватэру прыдбаць. А колькі часу спатрэбіцца на гэта, невядома. На жаль, у такім вялікім раёне, як Івацэвіцкі, не знайшлося свайго чалавека на пасаду старшыні райвыканкама.

*Алесь САШЫН.*

## Недаступныя тэлеканалы

**БЯРОЗА.** Ужо даволі працяглы час жыхары Паўночнага гарадка ў райцэнтры могуць глядзець па сваіх тэлевізарах толькі чатыры праграмы: БТ, ГРТ, РТР і мясцовую "Арбіту-ТБ". Кабельнае тэлебачанне ў гэтых дамах падключылі да агульных антэнаў і пасля таго, як на працягу некалькіх гадоў за карыстанне ім плаціла толькі частка жыхароў (у тым ліку і за падключэнне), астатнія каналы на гэтыя дамы трансліраваць перасталі. Людзі засталіся без незалежнага расійскага тэлебачання (НТБ).

Грошай на ўстаноўку дэкодэраў ці на пракладку кабеля ў кожную асобную кватэру, жыхары якіх жадалі б плаціць за паслугі кабельнага тэлебачання ("Арбіта-ТБ"), прадпрыемства не мае.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

## СУМНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Ужо на самым высокім узроўні прызнана, што сельская гаспадарка рэспублікі з кожным годам здае свае пазіцыі, нягледзячы на штогадовыя мільярдныя грашовыя ўліванні. Так, за дзевяць месяцаў гэтага года рэалізацыя жывёлы і птушкі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года знізілася на 12 працэнтаў, вытворчасць малака — на 8, яек — на адзін працэнт.

Гаспадаркі Івацэвіцкага раёна таксама штогод зніжаюць вытворчасць малака і мяса. За дзесяць месяцаў ад кожнай каровы надоена па 1909 кілаграмаў малака, на 39 кілаграмаў менш, чым летась. Напрыклад, у калгасе "Косава" — толькі 1125 кілаграмаў. Відаць, там ужо доюць не кароў, а коз.

Вытворчасць мяса сёлета склала 94 працэнты ў параўнанні з мінулагоднім.

Напярэдадні зіма, і цяжка сказаць, што чакае калгасную жывёлу. Адно зразумела, бяскорміца будзе яшчэ большай, чым летась. Словам, сумная перспектыва.

*Кастусь ДЗЯМЧУК.*

## Чистые подъезды

**ПРУЖАНЫ.** По распоряжению Брестского областного исполнительного комитета в 2000 году должно быть установлено шестнадцать стальных дверей в подъезды домов города. У каждого жителя подъезда при этом будет личный ключ от этой двери. Цель этих преобразований ясна — горожане хотят, чтобы в подъездах было спокойно в вечернее время, чтобы соблюдалась чистота и порядок.

*Юлия ТЕЛЬПУК.*

● *10 СНЕЖНЯ — ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА*

# "ПУСТЬ ВСЕГДА БУДЕТ... ВОДКА, КОЛБАСА И СЕЛЕДКА!"

*Гэты іранічны матыўчык, напэўна, многім знаёмы. Нам ёсць сэнс напяваць яго не толькі ў міжнародны Дзень правоў чалавека, але і кожны дзень. Любому зразумела, што правы чалавека ўмяшчаюць у сябе і правы на годнае жыццё (харчаванне, ахову здароўя, адукацыю, адпачынак і г. д.).*

Так, дзяржава, як быццам, клапоціцца аб сваіх суграмадзянах. Павышаюцца (вельмі маленькімі, праўда, крокамі) пенсіі. Зарплаты настаўнікам і ўрачам, работнікам бюджэтных арганізацыяў таксама вырастуць са снежня. Тым не менш, большая частка нашых суграмадзян (як сведчаць сацыялагічныя апытанні, каля 60%) на пытанне аб тым, як яны ацэньваюць узровень свайго жыцця, адказваюць коратка — "кепска". І гэты прымітыўны набор — гарэлка, каўбаса і селядцы — ператварыўся ў мару для многіх і многіх людзей.

На самой справе, як можна лічыць эканоміку РБ "устойлівай і дынамічнай" (так сцвярджаюць кіраўнікі дзяржавы), калі жыццёвы ўзровень насельніцтва не расце, а зніжаецца, калі даходы большай паловы працуючых ніжэй рысы мінімальнага спажывецкага бюджэту.

Аб якой стабільнасці эканомікі можна гаварыць, калі за 11 месяцаў бягучага года спажывецкія цэны выраслі прыкладна на 100%, узровень інфляцыі — на 80%. Цяпер ужо з Расіі харчовыя прадукты — масла, малако, мясныя вырабы, алей, піва — хлынулі на Беларусь. Бо калі год назад беларускія цэны былі на ўзроўні расійскіх, то сёння, па прычыне галапіруючай інфляцыі, нашы цэны значна вышэй за расійскія. І чакаць змен да лепшага, прынамсі, у сельскай гаспадарцы не прыходзіцца: калгасна-саўгасная сістэма перажывае вельмі цяжкія часы.

Прычына, хутчэй за ўсё, у адным: годна і заможна жывуць людзі ў тых краінах, што маюць свабодную канкурэнтную рынкавую эканоміку і дэмакратычную пабудову грамадства.

І, наадварот, цяжка чакаць добрага жыцця ў краіне з каманда-адміністрацыйнай эканомікай ды яшчэ пры такой сістэме падаткаў, як у нас; дзе імкнуцца прыдушыць любую прадпрымальніцкую дзейнасць, праяўленне свабоды і ініцыятывы.

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*




*Малюнак Аляксандра ВАРАНЦОВА (г. Івацэвічы).*

## АРХИТЕКТУРНЫЕ ПРЕМЬЕРЫ

**БАРАНОВИЧИ.** В эти дни в Минске проходит фестиваль архитектуры. Барановичи по первому разу представлены достаточно скромно, хотя и у нас есть чем похвастать. Последние архитектурные премьеры впечатляют: возьмите хотя бы близкую к завершению стройку института правоведения по ул. Маяковского. Любому вузу на зависть! Тут же рядом спорткомплекс, принадлежащий "Атланту", который тоже тянет на архитектурную премьеру. А о строящемся по ул. Димитрова жилом доме говорить и вовсе надо отдельно: таких комфортабельных квартир в нашем городе еще не было. Кроме прекрасной планировки и приличной площади, жильцы будут пользоваться подземной автостоянкой, сауной и прочими благами цивилизации. За приличные деньги, естественно.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## О выдвижении единого кандидата

*Основной задачей демократических сил Беларуси в преддверии президентских выборов остается выработка единой стратегии. Об этом говорится в резолюции Центрального комитета Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада), принятой 2 декабря по итогам парламентской избирательной кампании.*

По мнению социал-демократов, элементами такой стратегии должны стать: выдвижение единого кандидата от всех основных оппозиционных правящему режиму сил; расширение пропаганды альтернативного пути развития страны и создание в этих целях объединенной агитационной сети оппозиции; расширение и совершенствование системы наблюдения за выборами; завершение постановки на юридический учет всех первичных структур оппозиционных партий к февралю 2001 года; осуществление организационных мероприятий, необходимых для выдвижения единого кандидата.

## Центр по информированию

*4 декабря Центр по изучению ООН начал кампанию информирования населения Беларуси о правах и свободах, которые определены в международных правовых документах.*

В частности, Центр, являющийся совместным проектом Программы развития ООН (ПРООН), Управления верховного комиссара ООН по делам беженцев и Белорусского государственного университета, издал тиражом в 200 тысяч экземпляров карманную брошюру с двумя основными международными документами в сфере прав человека.

Пока большинство белорусов невысоко оценивают свои знания о правах человека. При опросе 1.193 жителей Беларуси, проводившемся по всей стране с 20 по 25 октября социологической лабораторией "Новак", более 34 процентов респондентов сказали, что считают уровень своих знаний о правах человека "низким", а 17 процентов - "очень низким". Около 36 процентов оценили этот уровень как "средний" и менее пяти процентов - как "высокий" или "очень высокий". Около 8 процентов не ответили на вопрос.

## Задолженность растёт

*По состоянию на 1 декабря задолженность по заработной плате в Брестской области составила 688 миллионов рублей.*

Наиболее непростая ситуация сложилась в сельском хозяйстве, на которое приходится 71 процент от суммы задолженности. Среди регионов наибольшие долги имеют Лунинецкий (115 миллионов рублей), а также город Пинск (89,2 миллиона рублей).

Несмотря на "хроническую" задолженность, руководство Брестчины представляет себе, как выполнить требования президента страны по выходу на среднюю зарплату в размере эквивалентном 100 долларам США. Сроки достижения этого, правда, не обозначены. Пока же среднемесячная зарплата по области за девять месяцев этого года составила 45 тысяч 202 рубля; у колхозников и того меньше - 26 тысяч 878 рублей.

## Поддержали своих коллег

*Более 36 тысяч подписей собрано областным комитетом профсоюза работников образования и науки Брестчины под заявлением минских учителей, технических работников, работников дошкольных учреждений и студентов к руководству страны.*

Как уже сообщал БелаПАН, в этом заявлении члены профсоюза выражают недовольство сложившейся в системе образования ситуацией и выдвигают ряд требований. "Если наши требования не будут выполнены до конца 2000 года, мы снимем с себя все нравственные обязательства перед обществом и оставляем за собой право защищать наши интересы всеми законными средствами и способами", - говорится в документе.

## Ведется сбор подписей

*124 члена парламента Швеции подписали обращение к Александру Лукашенко с требованием расследовать обстоятельства таинственных исчезновений белорусских граждан - политических оппонентов нынешней власти.*

Как сообщает гражданская инициатива "Хартия'97", принятию этого документа предшествовала трансляция по шведскому телевидению TV2 документального фильма "Дикая охота" Павла Шеремета, а также публикация соответствующих статей в местной прессе.

*(БелаПАН).*

КРЫМІНАЛ

## 100 граммов за... упокой души



*Фото IREX/ProMedia.*

**БАРАНОВИЧИ.** Испокон веков кладбище считалось мостом скорби. Однако, в последнее время, особенно в поминальные дни, на кладбищах все чаще разворачиваются самые настоящие попойки.

Церкви всех христианских конфессий всегда были против подобного поминовения. Кстати, нигде в мире нет ни традиции, ни привычки пить на кладбище. Но, как ни странно, наша нелепая традиция еще и увековечивается в произведениях искусства. В выставочном зале краеведческого музея еще на днях экспонировалась прекрасная выставка. Среди полотен и гобеленов была и работа К. Хорошкевича "Радуница". На картине как раз-то и запечатлен момент, как во время поминального дня на кладбище организовано застолье...

## "Редиска" украл редиску

**БАРАНОВИЧИ.** Если случайно отыщутся люди, которые не видели фильм "Джентельмены удачи", то поясню, что "редиска" — это плохой человек. Вот эдакий "редиска" и украл со склада в Барановичском районе семена редиса — аж 480 кг. И для ассортимента — 80 кг гороха. Если до весны не поймают, то не иначе как объедимся редиской.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## Курсант і хуліганы

**БЯРОЗА.** У адзін з нядаўніх вечароў курсант Баранавіцкай сярэдняй спецыяльнай школы міліцыі бярозаўчанін Аляксандр Дабранскі вяртаўся з кароткатэрміновага водпуску да месца вучобы. На падыходзе да чыгуначнага перапынку "Бяроза-горад" Аляксандр пачуў крыкі аб дапамозе, кінуўся на крык, убачыў, што чатыры невядомыя маладыя хлопцы збіваюць напаўраздзетага мужчыну. Аляксандр змог разагнаць групу хуліганаў, затрымаў аднаго з іх, выклікаў нарад міліцыі. Хутка ўсе чатыры хуліганы былі затрыманы.

Кіраўніцтва Бярозаўскага РАУС накіравала падзяку на адрас школы міліцыі і просьбу аб заахвочванні смелага курсанта.

*Валянціна АМЕЛЬЧАНКА.*

## Барацьба працягваецца

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Што-што, а красці ў нас навучыліся з савецкіх часоў, і гэтая "традыцыя", на жаль, працягваецца. Напрыклад, паблізу вёскі Даманава знята з электралініі тры кіламетры алюмінеvага дроту. Каб здабыць гэты метал, на вытворчай тэрыторыі ААТ "Івацэвіцкі льнозавод" разукамплектавалі пажарны аўтамабіль. Міліцыя шукае злодзеяў. А вось тых, што доўгі час кралі колы з вялікагрузных аўтамабіляў і прадавалі за долары, удалося затрымаць.

Напярэдадні Новага года, як правіла, праяўляюць актыўнасць патрашальнікі падвалаў жыхароў райцэнтра. Таму мясцовая міліцыя зацікавілася і правяла шэраг рэйдаў і праверак, звярнуўшы ўвагу на так званыя падвальныя крадзяжы, розныя прытоны. І нездарма. У хадзе іх знойдзена нямала рэчаў, што былі ўкрадзены раней, у ліку іх і веласіпеды.

Словам, барацьба з раскрадальнікамі дзяржаўнай і ўласнай маёмасці грамадзян працягваецца.

*Сяргей СЛАВІНСКІ.*

КУЛЬТУРА

## Прысвечана вядомаму земляку

**БЯРОЗА.** 30 лістапада ў актавай зале аддзела культуры адбылася вечарына, прысвечаная памяці Міколы Арахоўскага.

Ушанаваць памяць бярозаўскага драматурга прыехалі знаёмыя і сваякі, сябры-літаратары. Вяла вечарыну Ніна Мацяш.

Добрымі словамі ўспомнілі свайго земляка Алена Лойка, Віктар Супрунчук, Алесь Каско.

Зачытваліся ўрыўкі з апавядання Арахоўскага "Жоўты пясок". Акцёры Бярозаўскага народнага тэатра паказалі фрагмент з п'есы Міколы Арахоўскага "Напярэдадні".

Загадчык аддзела культуры райвыканкама Антон Барашка абнадзеіў прысутных, што ў хуткім часе адна з вуліц Бярозы будзе насіць імя Міколы Арахоўскага.

*Валянціна АМЕЛЬЧАНКА.*
*Міхась ПАШКЕВІЧ.*

## Шчырая памяць

**ПРУЖАНЫ.** Ужо каторы дзень у музеі-сядзібе "Старажытны парк" праходзіць выстава знакамітага на нашай зямлі мастака Мікалая Чурабы. У светлых і ўтульных памяшканнях знаходзяцца 103 яго работы, сярод якіх і партрэты, і аўтапартрэты, і нацюрморты, і пейзажы, намаляваныя графічна, алеем і акварэллю. Паглядзець на талент памерлага ў 1990 годзе мастака прыходзяць тыя, хто ведаў яго пры жыцці, а таксама навучэнцы школ, сельскагаспадарчага тэхнікума ды простыя людзі, якім падабаецца жывапіс. Людзі цікавяцца, дзе нарадзіўся Мікалай Дзмітравіч, вучыўся, працаваў.

Вельмі прыемна, што мастацкая спадчына нашых родных мясцін не застаецца без цяпла і ўвагі працаўнікоў музея, гараджан і вяскоўцаў, якія рэгулярна наведваюць аднаўленае памесце князёў Швыкоўскіх.

*Юлія ЦЯЛЬПУК.*

ЗДАРЭННІ

## Не дайшоў да хаты

Гэта здарылася ў вёсцы Вялікае Сяло Баранавіцкага раёна. Дагледчык жывёл мясцовага калгаса "Ленінец" вяртаўся дамоў на добрым падпітку. Але ж п'янаму вяскоўцу нечакана перагарадзіла шлях меліярацыйная канава, з якой ён не змог выбрацца і захлынуўся. А да хаты заставалася не больш дзесяці метраў. Шкада, што так недарэчна загінуў мужчына ў самым росквіце сваіх сіл. Яму было крыху больш за сорак гадоў.

*Кастусь ДЗЯМЧУК.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 6.12.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2100—2700 | 2100—3000 | 2200—2600 | 2400—2800 |
| Сала салёнае | 1800 | 1800—2400 | 2400 | 2300 |
| Алей (1 л) | 730—950 | 700—1100 | 750—950 | 700—950 |
| Яйкі | 900 | 800—1000 | 800 | 1000 |
| Малако (3 л) | 600 | 550 | 550—600 | 500 |
| Шпроты | 400—420 | 400—420 | 400—420 | 400—420 |
| Масла сметанк. | 1800 | 1900 | 2000 | 2000 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 80 |
| Цыбуля | 250 | 120—160 | 150—200 | 200 |
| Морква | 200 | 100—150 | 180 | 200 |
| Капуста | 70—100 | 100—120 | 100 | 80 |
| Грушы | — | 600—1000 | 200—400 | 400 |
| Буракі | 60—80 | 60—80 | 60—80 | 80 |
| Мандарыны | 1500—1600 | 1500 | 1500 | 1500 |
| Грэцкія арэхі | 1000 | 1500 | 1500 | 1000 |
| Яблыкі | 300—400 | 200—750 | 200—300 | 80—130 |
| Памідоры | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 |
| Вінаград | 1000—2500 | 900—1800 | 1600 | 2000 |
| Хурма | 1600 | 1600 | 1500 | 1200 |
| Часнок | 800 | 800 | 1000 | 300—800 |
| Лімоны | 1300 | 1100—1300 | 1300 | 1300 |
| Апельсіны | 650—850 | 650—720 | 790 | 900 |
| Бананы | 700—850 | 650—720 | 790 | 900 |
| Гранаты | 1600—1900 | 1800 | 1500 | 1600 |
| Грэчка | 560—660 | 650 | 650 | 650 |
| Макар. вырабы | 320—460 | 300—400 | 510—550 | 350—600 |
| Рыс | 450—520 | 400—420 | 450 | 460—490 |
| Манныя крупы | 460—500 | 460 | 400—500 | 460 |
| Проса | 320 | 330 | 330 | 360 |
| Цукар | 550 | 550 | 530 | 550 |
| Мёд | 3.300 | 4.000 | 3.600 | 4.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1180 | 1300 | 1180 | 1300 | 1180 | 1300 | 1160 | 1300 |
| 1 дойчмарка | 480 | 520 | 470 | 520 | 500 | 520 | 500 | — |
| 1 рубель Расіі | 40 | 44 | 40 | 44 | 40 | 44 | 40-41 | 46-47 |

ВАШЕ ПИСЬМО

# ТАКИЕ НАШИ СОСЕДИ

***Соседство, говорят в народе, дело взаимное. А ещё говорят, что сам себе на радость никто не живёт, потому как человеку необходимо общение. С этих прописных истин человеческого бытия, пожалуй, и можно начать разговор о наших соседях.***

Из разговора в автобусе:

— Представляешь, я попросила потише включить магнитофон, так они и слушать не захотели. Голова прямо раскалывается, не знаю, как буду сегодня работать.

— Нет, у нас, слава Богу, соседи все как родные друг другу. А как же без уважения?

Или:

— Не знаю, чтобы со мной было, если бы не соседка. Очень хорошая женщина, добрая, отзывчивая. Да все жильцы у нас хорошие, я не осталась одинокой в своём горе...

И ещё из подслушанного разговора:

— Поверите или нет, четвёртый год уже живём на одной лестничной площадке, а я даже не знаю, как зовут моих соседей. Все в своих отдельных квартирах както изолировались друг от друга и особенно в последние годы...

Да, непростое это дело — соседство. Причём соседствуют не только квартиры, комнаты, соседствуют прежде всего характеры человеческие, привычки, поступки. Соседствует порой культура и невежество, аккуратность и неряшливость, доброта и деспотизм... Соседствуют все человеческие чувства — от безмерного счастья до горя. Иногда мы меньше знаем о делах, здоровье, буднях своих родных, чем соседей. А если сосед сварлив, неуживчив, завистлив — это настоящая беда. Ленится в очередной раз площадку убрать, поддержать порядок во дворе. В каждом доме есть такие соседи, что за свою жизнь соломинки во дворе не подняли. Кто-то не ленится, находит время посадить возле дома цветы, а кто-то их срывает, уничтожает.

Когда заселили наш дом в 1965 году, я поехал в кобринский питомник и привёз саженцы. Все вместе мы вышли и посадили сад с внешней и внутренней стороны дома. Сделали это для того, чтобы и дети наши видели воочию, как цветут яблони, груши, вишни, рябина, калина, сирень, жасмин, как растут берёзки, каштан, дуб... Наши соседи этого не сделали, и теперь нет спасения от набегов детворы из соседних дворов. И в упрёк ещё кричат, что это всё общественное. Им хочется сорвать яблоко, снять кисть винограда.

С гордостью скажу также: в нашем доме соблюдается чистота и порядок. Постоянно, по очереди люди убирают раз в неделю лестничную клетку, поддерживают порядок во дворе. Очень стараются Надежда Полторацкая, Александр Домбровский, Василий Друзик, семья Корчевских... В серьёзных делах, в рабочей обстановке люди стараются быть такими, какими им и подобает выглядеть, но дома, в семье нередко другими, такими, каковы они на самом деле. Лестничная клетка должна не разъединять, а, наоборот, объединять людей, способствовать доверительности отношений, культуре общения.

Приятно видеть дружных соседей, взаимных в добрых чувствах друг к другу. Давайте же будем хорошими соседями.

***Иван Иосифович БАЗАРЕВСКИЙ.***
***г. Берёза.***

# ПРИРОДА ВСЁ СТЕРПИТ?

***Здравствуйте, уважаемая редакция!***

***Я пишу вам и надеюсь, что Вы сможете опубликовать моё письмо. Может быть, у Вас найдётся свободное место в газете. Я хочу затронуть экологическую проблему. Да, я знаю, что об этом сейчас много говорят, пишут и причём все всё понимают, однако делают всё по-другому. Люди, наверное, думают, что это где-то там, далеко, грязный воздух, отравленная вода, что кто-то всё это загрязняет, но только не мы.***

Однако, как они ошибаются. Ведь не надо далеко ходить, стоит только посмотреть из окна своего дома и сразу всё увидишь, потому что я живу в г. п. Телеханы, где протекает Огинский канал. А это наша история. Так вот, увидишь, какое отношение между природой и обществом.

Я не буду писать, что различные химические заводы, фабрики, да и вообще производства, загрязняют природу. Это всем уже известно. И поверьте, я не состою ни в каких организациях по охране природы. Просто думаю, что каждый человек должен заботиться о чистоте окружающей среды, это дожно быть заложено с рождения.

Как я уже писала, что эту "заботу" можно увидеть из окна своего дома. Так вот, этот канал вообще заброшен и с каждым годом всё больше зарастает различными кустарниками. Но это природа, это вода, а вода — это источник всего живого на Земле. Всё это мы дожны оберегать. Ведь в природе заключается наша с вами жизнь. Однако почти каждый день я вижу обратное. Люди, тоже живущие рядом с Огинским каналом, выгоняют свои пыльные, грязные автомобили и паркуют на берегу. И как вы думаете, для чего? Да, правильно думаете. Эти автовладельцы моют своих железных любимчиков с того же водоёма. Хотя эти мойщики прекрасно знают, какой ущерб приносят как самому водоёму, т. е. тем, кто в нём обитает, так и самому себе. Неужели так трудно помыть машину каким-то другим образом?

Ещё меня поражают те люди, которые в своей жизни основываются на таком принципе: "Всё, что в моём доме — всё моё, и поэтому надо беречь, а всё, что вне дома, то чужое, поэтому надо относиться с пренебрежением". Но ведь не зря говорится: "Наш дом — Земля". Так что здесь делить нельзя на "моё" и "не моё", ведь всё наше, всё общее.

Могу привести пример и даже не один (потому что такие люди встречаются нам довольно часто). Я неоднократно замечала такую картину. Вот представьте себе, что живёте в частном доме со всеми хозпостройками, с большим огородом. И, как правило, двор засоряется различным мусором. В этом случае свой личный участок убирается (я уже не говорю о том, чтобы ещё убрать то, что по ту сторону стены "своей крепости)". Но куда же потом денется этот хлам?

В этой ситуации люди поступают по-разному. Одни — добросовестно вывозят всё это на мусоросвалку, а другие ищут какую-нибудь ямку, причём за пределами своего убранного дворика, да ещё ямку в двух шагах от своей собственной калитки.

А ещё я наблюдала картину и похуже. Вообще, выбрасывают всё на асфальт как раз напротив своего же дома. Я понимаю, что у нас в стране две проблемы — это дураки и дороги. Так вот дороги у нас неровные, с ямками, с выбоинами. И вот туда-то и выносят мусор. Тем самым удовлетворяя себя мыслью: "Какой же я молодец. И двор свой убрал и дорогу "заровнял", хоть ямку не будет". Теперь может каждый житель посёлка вспомнить, что не раз это видел, а может узнает себя. Но, думаю, что у нас это принято, в порядке вещей. "А как должно быть иначе?"— спросите вы. Так как же можно дальше продолжать говорить об экологии? Мне кажется, что в первую очередь надо подумать о психологии нашего общества. Необходимо, чтобы оно осознало и поняло всю важность и сущность того, что делается.

***Надежда ГАБЕЦ,***
***жительница***
***г. п. Телеханы***
***Ивацевичского района.***

ТАКОВА ЖИЗНЬ

# "Чёрствые" проблемы

***Потихоньку возвращаются старые "добрые" времена. И первое свидетельство тому — возникновение очередей. Пугает то, что это очереди за продуктами.***

Пружаны славятся своими очередями, одна из которых с завидной регулярностью выстраивается в центре города около торгового дома "Апельсин". Очередь за хлебом. Нет, только не подумайте плохого, на Пружанщине нет голода. Просто в этом магазине продаётся хлеб, завозимый с Оранчицкого ХПП и там же выпекаемый по российской технологии в "Дока"-пекарне.



Очередь в основном состоит из людей пенсионного возраста, и злые языки утверждают, что они и стоят, потому что делать больше нечего. Однако у этих людей совсем иное мнение.

**Вера Степановна:**

— В магазинах хлеба навалом, но мы стоим-то за качественным хлебом. В былые времена был такой. А сейчас? На нашем хлебозаводе выпекается хлеб, в котором нож застревает, а когда его всё-таки достанешь, то отмыть от прилипшего мякиша довольно сложно.

**Николай Фёдорович:**

— Молодые смеются? Да если им дать возможность выбирать, тогда и они, я думаю, не стали бы покупать "пружанский", а брали бы только "оранчицкий" хлеб, который, кстати, намного дешевле.

Между тем, очереди уже "исполнилось" больше года, и можно в полный голос утверждать, что возникла проблема. Проблема, которую действительно пора решать.

***Кристина КРУГЛЕВИЧ.***
***г. Пружаны.***

КОНКУРС

***"САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"***



***ЛЕНА, по гороскопу — Овен.***
***Нравятся группы "На-на", "Руки вверх". Всегда рада встрече с Дэвидом Духовным, Арнольдом Шварцнеггером, дедом Морозом. Увлекаюсь химией и биологией.***
***Нравятся брюнеты спортивного телосложения без вредных привычек с зелёными или карими глазами.***

ПРАВА ПОТРЕБИТЕЛЯ

# Легче выбросить...

***Недавно, став свидетелем разговора двух старых приятелей, я был крайне удивлён нововведением нынешних руководителей нашей республики. Не буду пересказывать содержание беседы, замечу лишь, что оба они, бывшие военнослужащие, по иронии судьбы стали "челноками" или, по выражению А. Лукашенко, "жульём". Один осваивает просторы Венгрии и Чехии, а другой — Германии.***

К примеру, немцы удивляют своей педантичностью в вопросах экономного расходования домашнего бюджета и бережливости. Поэтому они, не имея вдоволь сырьевых ресурсов, живут во много раз лучше россиян, имеющих "всю таблицу Менделеева". За какие-то мизерные пфенниги немцы несут в приемные пункты пузырьки от лекарств, расколотые бутылки, баночки и скляночки...

А у нас? Неужели нельзя пустить на переработку стеклотару от шампанских вин и крепких заморских напитков, которые запрудили не только муссорные свалки, но сельские и городские улицы, скверы, бульвары?

Увы! Наши рачительные, а точнее расточительные господа-чиновники додумались ещё до одной дури. Если с полгода тому назад людей, сдающих коньячные и водочные бутылки, заставляли сдирать этикетки, то сейчас можно получить залоговую стоимость от торгующих предприятий за водочную винтовую бутылку только белорусского производства. Отличительным признаком такой винтовой бутылки является углубление на высоте цилиндрической части корпуса бутылки под этикетку. Кроме того, стекло должно быть светлым, без синего или зеленоватого оттенка, а донышко украшать эмблема двух "буслоў".

После услышанного мне пришлось обратиться в приёмный пункт стеклотары продмага №1 г. Барановичи и лично убедиться в дури чиновников наших дней. Приёмщица сетовала, что ей приходиться не только рассматривать донышки и горлышки, чтобы ни в коем случае не попали бутылки украинские и российские (хотя стандарт у всех одинаковый), но и платить свои денежки за два с половиной ящика, возвращенных обратно Брестским ликёро-водочным заводом.

Что же остаётся покупателю? Выбрасывать теперь уже нестандартные бутылки или добиваться права на возврат залоговой стоимости? Легче, конечно, выбросить, ибо права в нашей бесправной жизни искать, что иголку в сене.

***Григорий ДРУЖИНИН.***
***г. Барановичи.***

ЗАЦЕПИЛО

# НЕ БОЛИТ ГОЛОВА У ДЯТЛОВ...

*Что ни говорите, уважаемый читатель, а все течет, все изменяется. Вот и на отечественной квасоварне, т.е., на канале Белорусского телевидения, решили тряхнуть стариной и выдать на-гора политический сериал собственного изготовления.*

*Не уверен, что большинство из вас видело хотя бы серию, да и автор сей статьи, признаться по совести, видел только две, но, как говорится, для того, чтобы узнать качество блюда, не обязательно съесть целый котел. Достаточно одной ложечки. А посему, думается, и того, что было продемонстрировано, достаточно, чтобы поставить окончательный диагноз этой телестряпне, — бред.*

А ведь только одно название высвечивает всю претенциозность сих впрягшихся в "cinema" телерысаков (авторы — Ю. Азаренок и Н.Сергеев). "Тайные пружины политики" — так называется сей опус.О каких, кажется, тайнах и тем более пружинах можно говорить сегодня, когда давно поднаторевшие в этой сфере Андрей Пионтковский, Георгий Арбатов, Георгий Сатаров (читайте "Известия", "Труд", слушайте радио России), давно сдернули паранджу, оголили эту даму с сомнительным прошлым? Политику, то есть.

Вообще, через весь этот горесериал сквозят две основные "лирические" мысли. Первая: все демократы в РБ (демократы обязательно так называемые и в кавычках) продажные. Вторая: весь мир — протекторат, колония США, в мире существует два независимых государства — США и Беларусь, которую хотят сломить, покорить, но вот гордый, независимый белорусский народ под управлением гордого и независимого президента не взять голыми руками. А все из-за газовой трубы, что лежит где-то здесь в Беларуси. Без нее, трубы, в Америке, оказывается, не вздохнуть, не охнуть. Остальные фрагменты прямо или косвенно подтверждают сии изыскания.

Кстати, несколько слов о некоторых технических приемах двух белорусских "спилбергов". Без этого тоже не обошлось. Когда на экране появляется лицо Статкевича, Шушкевича, Лебедько, то обязательно включается так называемая техническая волна, эффект бегущей волны, когда лицо показываемого искажается так, как оно искажалось бы, если глянуть на водную поверхность, когда ее начало рябить.

Не думаю, что это сильно смутило самих оппозиционеров. Хуже то, что когда на экране появился Николай Сергеев, один из создателей фильма, то автор сих строк, как телезритель, долго не мог понять — продолжается вышеупомянутый технический трюк или нет. На экране появился криворотый, с неестественно косо сидящими, вывихнутыми и при этом бегающими глазами человек. Выяснилось, что это не технический прием.Сам он просто такой.

Когда-то И. Тургенев говорил, что нахождение в том или ином обществе накладывает на лицо человека специфический отпечаток. Хорошо же то общество сергеевых и азаренков, нечего сказать... Ну да ладно. Может он, как политолог, лучше, не такой вывихнутый?

Про отношение к Америке, вне сомнения, наш читатель слышал не раз. Непонятно другое: почему весь мир, Восточная Европа едва ли не в рот лезут этой Америке вместо того, чтобы "туліцца" к мудрейшему белорусскому руководству. А то ведь, кроме Ирака, Ливии, Кубы, никто с нами дружить не хочет. Но молчат, ни слова на эту тему не услышишь ни от Сергеева, ни от Азаренка.

Среди оппозиционеров и тех, кто не приемлет сегодняшнюю власть, особую ненависть к себе со стороны этой, с вашего позволения, телеберлоги вызывает личность Павла Шеремета. Правда, и Сергеев, и Азаренок забывают отдать должное этому действительно талантливому журналисту, номинанту премии "ТЭФИ" за 1998 год. Рядом с творчеством которого, их творчество — убогое создание несчастных лилипутов.

А ведь Павел Шеремет — профессионал, пустившийся в свободное плавание на весьма опасных, крайне сложных российских телепросторах. Там, где Сергеев или Азаренок, как два телетопора, сразу же пошли бы ко дну, Шеремет нашел себя.

А что является главной опорой для этих несчастных телелилипутов? Послушание, послушание, послушание. Не дай Бог, выгонят. Куда тогда пойти, куда податься? Если обратиться на ОРТ, то там таких "спецов" могут взять только полотерами. А потому — еще с большим усердием лижут барские сапоги, трутся об эти сапоги. Кстати, года три назад Николай Статкевич за все те оскорбления, что он услышал в подобной телестряпне, вызвал Юрия Азаренка на улицу, отвесив последнему затрещину, после которой тот помчался в суд. Статкевич, конечно, не прав. Разве можно таких несчастных и без того обделенных людей бить по голове? Разве их убожеством не оправдан весь этот телеабсурд?



XXX

Точно также дворовый пёс Барбос в басне дедушки Крылова, увидев своего старого знакомого, болонку Жужу, поинтересовался тем, как живётся ему. "Живу в довольстве и добре,— отвечает Жужу,— и ем, и пью на серебре..." На вопрос Жужу о том, как ему самому живётся, Барбос, хвост опустив и повеся нос, отвечал, что "...живу по-прежнему: терплю и холод, и голод, и, сберегаючи хозяйский дом, здесь под забором сплю и мокну под дождём".

Поинтересовался Барбос и тем, как Жужу на такую службу славную попал ",...бессилен бывши так и мал". С насмешкой отвечал Жужу: "...На задних лапках я хожу".

Не потому ли, пристроившись на хлебное место, так "отвязались" все эти азаренки, чайки, мухи? Не потому ли рейтинг БТ, как говорит один всем хорошо известный политик, упал ниже колена. А хозяевам канала и в голову не приходит пригласить хотя бы того Шеремета. Да и зачем? Ерунда, что на экране "халтура". Главное — угодить хозяину. А рейтинг... Черт с ним, с этим рейтингом.

И безжалостна мораль, которая, как нам кажется, лучше всего характеризует этих телелилипутов:

Как счастье многие находят.

Лишь тем, что хорошо на задних лапках ходят!

***Александр ГОРБАЧ.***

ГОЛАС НАРОДА

# Ці баіцеся Вы набліжэння НАТА да нашых граніц?

*Як сцвярджаюць некаторыя праўрадавыя СМІ, палітолагі Беларускага радыё і тэлебачання, толькі дзякуючы намаганням нашага нястомнага кіраўніка дзяржавы на нашы галовы не сыплюцца натаўскія бомбы і ракеты, як гэта было ў Югаславіі, і мы вайну можам назіраць толькі на тэлеэкранах.*

*Дарэчы, гэтыя палітолагі "забываюць" патлумачыць нам тое, чаму такія ж дзяржавы, як Польшча, Літва, Украіна, Эстонія, Латвія і іншыя, толькі і думаюць аб тым, як у гэты ваенны блок хутчэй уступіць. Яны чамусьці забываюць звярнуць увагу на той факт, што беларускае Косава куды больш спакойнае, чым югаслаўскае, і аўтаноміі не патрабуе.*

*Няўжо селектарныя нарады могуць вывесці з раўнавагі заходніх імперыялістаў?*

*А што думаюць наконт гэтага жыхары г. Бяроза? Вось іх адказы:*



**Вадзім:** Нічога добрага прасоўванне НАТА нам не абяцае. Ваенныя сілы Беларусі і сілы НАТА вельмі няроўныя. Трэба туліцца да Расіі, падтрымліваць з ёй ваеннае супрацоўніцтва, падпісваць з ёй розныя дамовы, бо ў адзіноце мы прападзем.

**Генадзь Фёдаравіч, ваенны пенсіянер** (сфатаграфавацца адмовіўся ): Я НАТА не баюся, мы зможам з імі паваяваць так, што сорамна не будзе. Гэта не Чачня, дзе горы, дзе бандытаў так проста не выкурыць. Даю гарантыю, што так свабодна, як над Югаславіяй, натаўскія самалёты лятаць не будуць.

**Яўген** (сфатаграфавацца адмовіўся): А чаго іх баяцца? Тая ж Фінляндыя ці Швецыя не ўваходзіць у гэты блок і, тым не менш, не баіцца... Ведаеце, не трэба толькі станавіцца ў позу, сябраваць трэба з усімі, дамовы падпісваць. Расійскае кіраўніцтва хоць іх не падтрымлівае, але ж пастаянна сустракаецца з іхнімі генераламі, а нашы беларускія палітыкі, нібы дзікуны лясныя...



**Саша:** Думаю, што гэта нядобра. Не таму, што я баюся (ніхто, упэўнены, на нас нападаць не збіраецца), а таму, што будзе розная зброя тырчаць каля нашых граніц. А там, дзе многа зброі, часта бываюць вялікія разборкі...



**Сяргей:** Я НАТА не баюся. Нас ніхто бамбіць не будзе і, думаю, не збіраецца. Але, заўважу, каб жыць і спаць спакойна, трэба падтрымліваць аўтарытэт і значнасць сваёй арміі. Сам служу ў арміі. Бо калі дзяржава не корміць сваю армію, то будзе карміць чужую...

***У народ хадзіў Аляксандр ГОРБАЧ.***
***( фота аўтара).***

ЗА І СУПРАЦЬ

# АБ'ЯДНАННЕ РАСІЙСКАГА РУБЛЯ І БЕЛАРУСКАГА "ЗАЙЦА" ДАСЦЬ НАМ "РУБЛЕННОГО ЗАЙЦА"

*Нядаўна прайшоўшы ў беларускай сталіцы саміт СНД, як сведчаць дзяржаўныя СМІ, быў вялікім крокам ( а як жа! ) наперад у справе інтэграцыі. Асабліва тут пастараліся Беларусь і Расія - падпісана дамова, паводле якой з 2005 года грашовыя адзінкі гэтых краін будуць аб'яднаны.*

*Да гэтай пары не ўсё зразумела ў ЗША. Каля месяца прайшло з таго часу, як тут адбыліся прэзідэнцкія выбары, але галасы выбаршчыкаў раздзяліліся так, што перавага аднаго кандыдата над другім проста мізэрная, але выклікала цэлы шлейф пералікаў і зваротаў.*

*Такім чынам, удзельнікам нашага завочнага дыскусійнага клуба прапануецца адказаць на наступныя пытанні:*

*1. Аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Які ваш каментар?*

*2. Выбары ў ЗША. Ці мае месца палітычны крызіс?*

## КУРС НА СБЛИЖЕНИЕ — ПОДДЕРЖИВАЕМ

1. Наша партия, её рядовые члены полностью поддерживают курс на сближение России и Беларуси. Тут, как мне кажется, двух мнений быть не может: социологические опросы, к примеру, свидетельствуют, что подавляющая часть россиян и белорусов выступают за создание единого государства. Вне сомнений то, что объединение денежных систем даст мощный толчок к разрешению социально-экономических проблем в нашем государстве.

Смущает, что решение этого вопроса отложено аж до 2005 года. Каждый месяц тут усугубляет положение. Если от этого объединения выиграют и россияне, и белорусы, то к чему такая оттяжка?

2. Выборы в США засвидетельствовали, что в Штатах имеет место политический кризис. Страна, которая претендует на роль мирового жандарма, стремится к мировому господству, которая учит других жить, голосовать, не разберётся никак в своей выборной системе. Безусловно, что их система выборов так сказать хромает. Выборы у них не спокойное, мудрое волеизъявление, а какое-то шоу, карнавал, свистопляска какая-то...

***Светлана ГОЙШИК,***
***зав. детсадом,***
***Зелёный Бор***
***Ивацевичского района,***
***член ПКБ.***

## У ЗША ВЫБАРЫ, У НАС — МЫШЫНАЯ ВАЛТУЗНЯ

1. У нармальных краінах аб'яднанне ідзе на базе дасканалых эканамічных сістэм. Паміж жа эканамічным статускво Расіі і Беларусі пропасць. Таму ўсе палітыкі-эканамісты цвярозага розуму адцягваюць час аб'яднання, а народу гавораць тыя байкі, якія ён жадае слухаць.

Аб'яднанне грашовых сістэм, безумоўна, пацягне за сабой пэўную страту суверэнітэту. Гэта зноў-такі парушэнне Канстытуцыі, што павінна кваліфікавацца як злачынства. Эмісійны цэнтр РБ будзе знаходзіцца ў Маскве, фінансавая самастойнасць Беларусі будзе на нулявым узроўні.

2. Тое, аб чым баяць казіяткі і зімоўскія, я думаю, даўно нікога не здзіўляе. Здзіўляюць проста бессаромныя, часам проста тупыя аргументы, якія высоўваюць гэтыя гора-журналісты, каб паказаць выбарчую сістэму ЗША адсталай. Ад Беларусі, зразумела.

Калі б падобны расклад галасоў быў у РБ, то тыя няшчасныя 300 бюлетэняў так "замазалі б" на карысць патрэбнага кандыдата, што і канцоў не знайшлі б. У нас такое не магчыма нават у прынцыпе, я нядаўна быў назіральнікам на выбарах у так званую палату і бачыў усю тую мышыную валтузню вакол бюлетэняў.

Так, у ЗША не кожны амерыканец галасуе, але ж у нас таксама не кожны ўдзельнічае ў выбарах. Што бачым мы ў РБ: моладзь адносіцца раўнадушна, а старыя нямоглыя пенсіянеры ледзь не паўзуць на выбарчыя ўчасткі, каб пакінуць моладзі пасля сябе нібы з таго свету адкопаныя ідэі і палітыкаў.

***Леанід РУСАК,***
***беспартыйны,***
***г. Івацэвічы.***

(Працяг. Пачатак у №№ 26—32, 34, 35, 37, 42, 45, 46, 47, 48).

## XII. З ВЁСКІ ВОГНЕННАЙ

**24.**

Сабраўшы ўсіх дзяцей, Ульяна Міхайлаўна падалася ў Вялікую Гаць да сваякоў, дзе жыла да канца вайны.

У кожнага з членаў сям'і Горбачаў па-свойму склалася далейшае жыццё. Напрыклад, Мікалай пасяліўся ў Бабровічах, тут ажаніўся і пабудаваўся. Дарэчы, ён узяў сабе ў жонкі мясцовую дзяўчыну Алену Петруковіч.

У той трагічны для Бабровічаў і яе жыхароў дзень сям'я Данілы і Агаф'і Петруковічаў знаходзілася дома. Мясцовы солтыс абышоў усе хаты і перадаў нямецкі загад, каб жыхары нікуды не адлучаліся, заставаліся на месцы. Калі ж немцы і паліцаі пачалі зганяць людзей, страляць і паліць, гаспадары дома занепакоіліся, сталі хавацца, а потым паспрабавалі выбрацца з вёскі. Заб'юць то заб'юць — не гарэць жа жывымі ўсёй сям'і ў хаце ці хляве. Яны чулі, як жудасна крычалі вяскоўцы, калі іх пачалі паліць у хаце. За вёскай, бліжэй да лесу, Петруковічаў спыніў немец. "Цурык!" — крычаў ён, наводзячы аўтамат на падыходзячых жыхароў. Агаф'я ўпала на калені і пачала прасіць:

— Паночку, не беце нас. Мы ні ў чым невінаватыя. Пашкадуйце дзетак...

У гэты час з бліжэйшага "паста" гэтага немца паклікалі. Застаўся другі, больш пажылы, які дагэтуль маўчаў. Ад гарэўшых пабудоў і стога саломы, што стаяў за вёскай, чорна-шэры дым слаўся па полі і на нейкі момант хаваў Петруковічаў. Дык вось гэты немец махнуў рукой, каб яны беглі ў лес, а сам пачаў страляць паверх галоваў. У гэтай мітусні і неразбярысе, што тварылася ў вёсцы і вакол яе, можна было лёгка разгубіцца і не адразу знайсці правільнае рашэнне. Петруковічам, як яны самі лічаць, пашанцавала, як і, бяспрэчна, аднавяскоўцу Мікалаю Горбачу, іх будучаму зяцю.

**25.**

А Мікалай і Алена, стварыўшы сям'ю ў 1959 годзе, і сёння разам. Праўда, жывуць ужо ў пустой хаце. Іхнія дзеці (а іх чацвёра) ужо дарослыя, маюць свае сем'і, раз'ехаліся па свеце, жывуць у Івацэвічах, Целяханах і Мінску.

Мікалай Антонавіч і Алена Данілаўна ганарацца сваімі дзяцьмі. Не толькі таму, што дачка Вольга, сыны Васіль, Мікалай і Андрэй, не забываюць бацькоў, часта наведваюць іх, дапамагаюць ва ўсім, а перш за ўсё тое, што іх дзеці выраслі добрымі, шчырымі і спагадлівымі людзьмі.

— Нам не сорамна за сваіх дзяцей, — кажа Мікалай Антонавіч. — Яны ніколі нікога не пакрыўдзілі, ніхто на іх не скардзіўся ні ў вёсцы, ні ў школе. На чужую бяду яны адклікаюцца, як і мы ў свой час...

XXX

Людзі з вогненнай вёскі. Колькі іх выратавалася тады, у той вераснёўскі дзень? Як кажуць сёння бабравічане, толькі жменька. Але з гэтай жменькі, як зярняткі з сявенькі, выпырхнула і ўпала ў пульхную глебу насенне, каб прарасці, даць усходы. Так і нашчадкі спаленых і забітых, што цудам уцалелі і выратаваліся, пасяліліся тут, на папялішчах, пабудаваліся, аднавілі спаленую вёску. Як сказаў паэт, каб пакінуць спадчыну для патомкаў інакшую ад той... Хочацца верыць, што так і будзе.



*(Злева направа) Алена Петруковіч (зараз Горбач) з бацькам і маці, з дачкой Вольгай і сынам Васем (80-я гады).*



# ДЗЕЦІ ВАЙНЫ

## XIII. СВАІМІ ВАЧАМІ

**1.**

Распавядаючы пра дзяцей вайны, я міжволі ўспомніў сваё маленства, бацькоўскую сям'ю, сваіх сясцёр, братоў, знаёмых. Нас, дзяцей, у сям'і было восем. Жылі на ўскраіне тады яшчэ мястэчка Нароўля (цяпер ужо горад), якое размясцілася на беразе ракі Прыпяць, што на Гомельшчыне.

Калі пачалася вайна, мне было пяць з паловай гадоў. Я многае помню, што тады адбывалася.

Яшчэ да ваеннага ліхалецця ў нашай сям'і тварылася нешта неверагоднае. Спярша памерла маленькая сястрычка, потым — два брацікі. Маці казала, што іх Бог забраў, бо захварэлі і памерлі. У бальніцу тады чамусьці не бралі, не лячылі, як сёння, спадзяваліся на Усявышняга, але ж і малітвы не дапамагалі.

А ўжо большанькі брацік загінуў зусім недарэчна. Яму ўжо мінула дзесяць гадкоў, і ён з суседскім хлопцам, трохі старэйшым, пасвіў людскіх кароў. Справа была ў канцы жніўня. Каровы хадзілі ў "Ніўках" (так называлася ўрочышча ля рэчкі Нараўлянкі, што ўпадае ў Прыпяць). Побач на ўзгорку раслі калматыя грушы, і хлапчукі кідалі палкі ў голле і збівалі грушы-дзічкі і ласаваліся імі. Нішто не прадказвала бяды. Калі Мішка пачаў збіраць збітыя грушы, то даволі тоўсты кій зваліўся з вышыні, сваім канцом дзеўбануў у Мішкаву галаву. Мішка так і не падняўся тады з зямлі.

**2.**

Ёсць у мяне сястра Галя (жыве зараз у Нароўлі). У чэрвені 1941 года з сяброўкай паехала ў Ленінград. Там яе застала вайна. Выжыла таму, што трапіла на працу ў ваенны шпіталь.

На пачатак вайны ў нашай сям'і засталося трое дзяцей: я з братам Колем (мы, дарэчы, блізнюкі) і брат Уладзік. У 41-м яму споўнілася 15. Пры немцах жылі дома. На пачатку 1944 года ўсе, хто змог, павыязджалі ў лес, бо пайшлі чуткі, што немцы адступаюць, усё паляць і ўсіх б'юць.

Паехалі і мы са сваімі некаторымі родзічамі ў лес за вёску Фізінкі. Там жылі ў нейкім будане, зробленым з галля, а потым у зямлянцы. Бацька з намі не паехаў. "Я сваю хату не пакіну, — сказаў ён. — Са мной нічога не здарыцца".

Дарэчы, бацька быў старэй за маці на 11 гадоў. На пачатку вайны яму мінула 53 гады і таму на фронт яго не ўзялі.

Рыгора Дзмітравіча, свайго бацьку, помню добра. Высокі, з жаўтаватымі пракуранымі вусамі, з лагоднай усмешкай на твары. Але ж адна адметнасць вылучала яго: ён вельмі па-майстэрску, як нейкі чараўнік, іграў на скрыпцы. Бывала, возьме скрыпку ў рукі, пацягне смычком і весела камандуе: "А ну, хлопчыкі, рукі ўбокі". Мы скачам, а ён смяецца ад задавальнення. Як казала маці, бацька быў першым музыкам у акрузе. Яго пастаянна клікалі на вяселлі.

**3.**

У тое лета 44-га немцы адступалі з боем і, вядома, нарабілі многа бяды. Якраз у нашай хаце стаялі немцы. Тут яны, па ўсім відаць, балявалі, бо вакол валялася курынае пер'е, абгрызеныя косці. А мэбля, што знаходзілася ў хаце, была спалена ў печы. Сенцы нашай хаты ўсім раскідалі. А бацьку, што заставаўся дома, аб'явілі партызанам, моцна пабілі, зацягнулі да рэчкі і там кінулі ў ваду ля берага. Паўжывога яго падабраў адзін з мясцовых жыхароў, занёс да сябе ў хлеў, дзе ён праз некалькі дзён памёр.

Нібы сёння, бачу той малюнак, які адкрыўся перада мной у чэрвені 44-га. Наша хата стаяла паўразбураная, без вокнаў і дзвярэй. А ля яе і вакол валялася шмат патронаў, гранат, артылерыйскіх снарадаў. Знаходзіў я з братам вінтоўкі і аўтаматы. Ужо сёння я думаю і здзіўляюся, як жа мы ўцалелі, бо неадночы суседскія хлопцы падрываліся то на гранатах, то на мінах. Відаць, нам пашанцавала ці суджана было жыць.

Пра адзін трагічны выпадак усё ж раскажу. Напрыканцы лета 44-га года (а тады Нароўля ўжо была вызвалена ад захопнікаў) мой брат Уладзік атрымаў павестку ў армію. Хоць і была пустая хата, але маці вырашыла зрабіць невялікія праводзіны. Такая была ўжо традыцыя. Сёе-тое з прадуктаў прынеслі суседзі. Сябры Уладзіка, якія таксама збіраліся на службу, прапанавалі паехаць за Прыпяць на азёры і налавіць рыбы.

**4.**

У той дзень я з братам гуляў ля хаты. Ужо бралася пад поўдзень, як прыбегла цётка Вольга.

— Каця, Каця! — крычала яна яшчэ здалёк. — Уладзіка няма...

Мая маці якраз несла на каромысле ваду з калодзежа, што знаходзіўся на былым калгасным двары ў метрах ста ад нашай хаты. Я бачыў, як маці кінула тыя вёдры з каромыслам і, галосячы, пабегла з цёткай Вольгай ў мястэчка.

Што ж здарылася? Як потым расказалі сябры Уладзіка, рыбу вырашылі здабыць з дапамогай гранаты. Уладзік узяў нямецкую гранату, заклаў туды капсуль, вырваў чаку, замахнуўся і не паспеў кінуць у ваду. Граната разарвалася ў руцэ. Уладзіку адарвала абедзве рукі, здорава пашкодзіла грудзі і жывот, акрывавіла твар.

Хлопцы перавезлі параненага праз Прыпяць, і Уладзік яшчэ сам дабег да бальніцы. Там было недалёка. Некалькі гадзін працягвалася аперацыя. Увесь гэты час маці і цётка Вольга знаходзіліся пад вокнамі бальніцы. Выратаваць брата не ўдалося. Ён памёр вечарам таго ж дня. Так намечаныя праводзіны ператварыліся ў нечаканае пахаванне.

**5.**

Восенню таго ж года я і брат пайшлі ў першы клас. Нам ужо споўнілася па восем з паловай гадоў. Хлопцы былі велікаватыя. Вайна перашкодзіла пайсці вучыцца раней.

Ні апрануцца, ні абуцца ў штосьці лепшае мы не мелі. Сусед наш дзед Ахрэм сплёў нам прыгожыя пасталы. Маці перашыла нейкую Уладзікаву адзежыну. Так і пайшлі ў школу з торбачкамі цераз плячо. Тады мала хто здзіўляўся, што мы ў такім убранні, бо многія першакласнікі былі апрануты падобным чынам.

Хадзіць у школу было далёка — на другі канец мястэчка — гэта не менш трох кіламетраў. Бяда толькі, што пасталы часта стаптваліся.

На дваіх з братам у нас быў адзін аловак. Пісалі па чарзе. Сшыткаў першы год наогул не бачылі. Пісалі на кавалачках з папяровых мяшкоў. Разлінёўвалі і вучыліся пісаць.

Мінула ўжо колькі гадоў, а я ўсё помню сваю першую настаўніцу Марыю Іванаўну. Гэта была ўжо немаладая жанчына. Заўсёды спакойная, уважлівая. Яна, нібы магніт, прыцягвала да сябе. Дзе б яна ні была, яе заўсёды акружалі дзеці. Ішла ў школу — суправаджалі, вярталася дамоў — праводзілі.

За пражытыя гады я не сустракаў ужо настаўнікаў, перад якімі нізка схіліў бы галаву. Марыя Іванаўна была такой толькі адной — непаўторнай, шчырай і вельмі-вельмі добрай.

**6.**

Я з братам гадаваўся без бацькі. Ужо змалку мы ўмелі рабіць усё і ў полі, і дома. Як мы тады выжылі, адзін Бог ведае. Бывала і жабрачылі. Да таго ж вучыліся і не горш за іншых.

Я ўжо казаў, што мой бацька быў першым музыкантам у Нароўлі. Скрыпка ў ягоных руках іграла, спявала, залівалася рознымі пяшчотнымі гукамі. Бацькава скрыпка цудам уцалела. Збярог яе сусед. Яна доўга вісела на сцяне ў нашай хаце. Купцоў было многа. Аднак маці не рашалася прадаваць яе, хаця голад прымушаў мяняць усё, за што можна было здабыць нешта з прадуктаў. А калі вельмі прыціснула, што наогул не было чым карміць дзяцей, маці абмяняла скрыпку на два пуды жыта. Я з братам плакаў — так не хацелася расставацца з адзінай каштоўнасцю ў хаце.

Кажуць, што ў няпоўных сем'ях, асабліва без бацькі, дзеці ў большасці растуць беспрытульнымі, нявыхаванымі. Часта ўцякаюць з дому, займаюцца крадзяжамі, разбоем. Нельга адмаўляць, такое было і сёння ёсць. Але ў нас маці была асаблівай, не такой, як усе. Яна была і строгай, і добрай, і ласкавай. І мы не маглі не слухаць яе. У школе, напрыклад, нас ніхто і ніколі не папракнуў, што мы лайдакі ці, не дай Бог, парушальнікі дысцыпліны. Так было, і за гэта мы ўдзячны сваёй маці.

**7.**

Пасляваенныя гады былі самымі цяжкімі, таму, відаць, сталі самымі запамінальнымі. Помніцца, як да сястры, што вярнулася з вайны, сватаўся мясцовы сувязіст. Для мяне з братам не гэта было галоўным. Ён прынёс пячэнне і паклаў на канапу. Мы ніколі не елі такой смакаты. Гэта было для нас своеасаблівым адкрыццём.

А праз год Сцяпанавіч, муж маёй сястры, узяў мяне з сабою ў дарогу. Мы паромам пераправіліся праз Прыпяць і пешшу накіраваліся ў вёску Марынтон, што непадалёк ад Брагіна. Гэта радзіма Сцяпанавіча. Праз два дні выйшлі назад. Сцяпанавіч вёў на павадку маладую чорна-белую карову, я ішоў ззаду, быў за паганятага. За дзень не паспелі дайсці да Нароўлі. Заначавалі ў вёсцы Ломуш. Гэта паблізу Глінішчаў, дзе нарадзіўся Іван Мележ.

За дарогу я здорава стаміўся, і ў пахве ля левай нагі атрымаўся нарыў. Я трапіў у бальніцу, дзе разрэзалі тую пухліну і выдалялі гной. Затое ў нас ужо была карова і стала лягчэй пракарміцца.

*Святаслаў* **КАЖАДУБ.**

*Івацэвіцкі і Бярозаўскі раёны.*

*(Заканчэнне будзе).*

